Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

18 - 24 ВЕРАСНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 4000 РУБЛЁЎ
№38 (178)

## АДНА ЗЯМЛЯ

МАЛАДЗЕЧНА

### Прафкому ў дапамогу

У 16 гаспадарках, на 8 прадпрыемствах раёна ўведзены пасады намеснікаў кіраўнікоў па інфармацыйнай рабоце.

У большасці выпадкаў такія пасады сумяшчальныя, з 10-20% аплатай. Вызваленыя намеснікі толькі на АТ «Забудова», у калгасе «Усход». На прадпрыемствах у Радашковічах, на ТБЗ «Беразінскі» вызваленая адзінка намесніка па інфармацыйнай і кадравай рабоце.

Службовыя абавязкі пакуль да канца не распрацаваныя. Аднак новыя намеснікі, хутчэй за ўсё, будуць займацца сацыяльнымі пытаннямі.

*Аддзел інфармацыі.*

АСТРАВЕЦ

### Адной дарогай стала больш

Мясцовае ДРБУ–159 запісала на свой рахунак яшчэ адну добрую справу: днямі камісія з прадстаўнікоў "Гроднадарбуда" прымала дарогу Малі–Кавалі.

Нягледзячы на тое, што будаўніцтва абышлося ў немалыя грошы (амаль 10 мільярдаў выдзеліў аблвыканкам), карысць відавочная. У вадзіцеляў з'явілася аб'язная дарога вакол вёскі Малі, а ў вяскоўцаў цяпер будзе менш хваляванняў, калі іхнія дзеці з'явяцца на вузкай вясковай дарозе.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВАЛОЖЫН

### Разлічыліся вежамі

Калгас "1 мая" завінаваціўся фонду сацыяльнай абароны насельніцтва 1 мільярд 71 мільён рублёў. Апошні звярнуўся ў суд. Пасля рашэння судовы выканаўца спагнаў з калгаса на карысць фонда асноўныя сродкі – 7 сянажных вежаў. Іх, хутчэй за ўсё, будуць разбіраць і прадаваць па частках.

А наогул, з 26 сельгаспрадпрыемстваў раёна фонду вінаватыя – 22 (!). Найбольшая запазычанасць у калгасаў "Зара" – 1,7 мільярда рублёў, "Верны шлях" – 1,1 мільярда. Чакаюць прыезду юрыста з вобласці, які разгледзіць справы асобна па кожнай гаспадарцы.

*Рэгіна СЯМЁНЧЫК.*

АСТРАВЕЦ

### "Лабірынт" у чаканні. Пакупнікі таксама

Чаканні многіх мясцовых пакупнікоў, звязаныя з адкрыццём новага мэблева–гаспадарчага магазіна, на мінулым тыдні не спраўдзіліся. Праўда, гэта не дае падставаў сцвярджаць, што крама наогул не расчыніць свае дзверы.

Як зазначылі ў райспажыўтаварыстве, адкрыццё затармазілі канкрэтныя прычыны. Засталіся незакончанымі ўсе ўнутраныя работы, не паспелі добраўпарадкаваць тэрыторыю побач. Таму адкрыецца "Лабірынт" са спазненнем на тыдзень–другі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

АСТРАВЕЦ

### Новы цэх для новых месцаў

Уласнымі сіламі на ААТ "Кардонная фабрыка "Альхоўка" ўзводзіцца новы цэх па выпуску кардону, што звязана з павелічэннем вытворчасці.

У гэтую справу ўкладзена каля 8 мільярдаў рублёў, якія, на думку кіраўніцтва ААТ, акупяцца не толькі ў фінансавым, але і маральным плане. Для работы ў цэху будуць набіраць новых людзей.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ШЧЭЦІН–МАЛАДЗЕЧНА

### Журналісты вучацца

Тыдзень таму з польскага горада Шчэцін вярнулася першая група маладых журналістаў, якія бралі ўдзел у навучальнай праграме "Журналісты для развіцца дэмакратычнага грамадства на Беларусі". Сярод удзельнікаў праграмы быў і карэспандэнт «РГ» па Астраўцы, Смаргоні і Ашмянах **Мар'ян Вянгроўскі.** Арганізатарам яе выступіў Фонд развіцця лакальнай дэмакратыі (FRDL, Шчэцін) сумесна з беларускімі партнёрамі – асацыяцыяй "Вольнае слова" і цэнтрам "Супольнасць".

Навучанне праходзіла ў тры этапы і мела на мэце даць практычныя навыкі па зборы інфармацыі і падрыхтоўцы матэрыялаў, у вывучэнні газетных жанраў, авалоданні камп'ютэрам і іншае.

Своеасаблівым вынікам удзелу беларускіх журналістаў у гэтай праграме стала выданне двух нумароў газет" Беларускае незалежнае рэха" і "Дзікі Жуў". Кожны, хто ўдзельнічаў у іхняй падрыхтоўцы, меў магчымасць на практыцы адчуць спецыфіку выпуску газеты.

Заняткі праводзіліся з дапамогай спрактыкаваных журналістаў з "Газеты выборчай", "Кур'ера шчэцінскага" і "Глоса шчэцінскага". Па заканчэнні курсаў удзельнікі атрымалі дыпломы.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

### Валютнае паляванне

Двое паляўнічых з Германіі (зямля Гесэн) прыехалі ў раён.

Галоўная іх задача – заключыць з вытворчым прадпрыемствам Белдзяржпаляванне пры Міністэрстве лясной гаспадаркі доўгатэрміновы кантракт на паляванне. Таксама ў гасцей ёсць дазвол на цяперашні трафейна–селекцыйны адстрэл аленя, дзіка і казулі.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ХАБАР

## Арыштаваная дырэктар медвучылішча



*Арыштаваных чакае зала суда.*

ФОТА З АРХІВА «РГ».

***МАЛАДЗЕЧНА. Міжраённым аддзелам камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі пры МУС РБ на гэтым тыдні арыштаваная дырэктар медвучылішча Ларыса Тамошкіна (яшчэ дваіх затрымалі, аднак вызвалілі да суда). Мясцовы ГРАУС займаецца выкладчыкамі вучылішча, а згаданы аддзел – кіраўніцтвам.***

- Тыя, хто даваў хабар, таксама могуць быць пакараныя ад 3 да 8 і ад 7 да 15 гадоў пазбаўлення волі (у залежнасці ад часткі артыкула),- гаворыць начальнік аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю **Віталь Дубовік**.- Згодна з заканадаўствам, тыя, хто даў хабар, аднак добраахвотна заявіў пра гэта, вызваляюцца ад крымінальнай адказнасці. Яшчэ ёсць час нам патэлефанаваць 65911, 30202.

***- На мінулым тыдні аддзелам па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю затрымана і злачынная групоўка з Бабруйска. У жыхара горада яны выманьвалі 3100 долараў. А крыху раней супрацоўнікі аддзела з дапамогай спецпадраздзяленняў МУС рэспублікі «павязалі» пінскую групоўку. Маладзечна стала полем дзейнасці для гастралёраў?***

- Сёння сітуацыя аздаравілася. Тым больш што арыштавалі ўдзельнікаў злачынных груповак **Клімовіча, Малахава, Бураўцова**. Аднак прырода не церпіць пустаты. Кантынгент з іншых гарадоў вольна ездзіць па рэспубліцы. Здараюцца асобныя выпадкі рэкету. Прыкладам, былы зэк на рынку хоча «пашчыміць» украінцаў. Тыя даюць яму адпор - ідзе да іншых. Прычым дзейнічае сам па сабе. Раней жа амаль 100% камерцыйных структур плацілі даніну. Існавала сістэма з выхадам на Мінск.

***- Тое, што гастралёры чапляюць маладзечанцаў, звязана з месцаразмяшчэннем горада, ці тут самыя багатыя людзі?***

- Усё прасцей. Маладзечанцы ля Бабруйска ўтварылі ДТЗ, разбілі BMW злачынцаў. Даішнікаў пацярпелы бок адправіў назад - рэгіструйце, але разбярэмся самі. А потым наведалі Маладзечна і запатрабавалі за рамонт 3100 долараў. З фізічным уздзеяннем на небараку.

Па пінчанах сітуацыя была яшчэ больш драматычная. У жыхара Чысці злачынцы адабралі машыну - «Опель-Амегу» коштам 7 тысяч долараў. Маўляў, ты насыпаў у бензабак нашага BMW соль. А калі пашкодзіў - плаці. Тым болей, калі хочаш назад атрымаць машыну.

Злачынцы «працавалі» ўпяцёх. Лідэр з Пінска, астатнія з Брэсцкай вобласці, Мінска, Расіі. «Зборная» здзейсніла каля 40 злачынстваў. Па дробязях не праходзілі. Прыкладам, за адно рабаванне ў Ваўкавыску ўзяла 50 тысяч долараў, у Пінску - 30 тысяч. Спынялі «Ікарусы», фуры ля Брэста, Оршы, Лунінца. За імі забойства ў Магілёве. Пераапраналіся ў міліцэйскую форму, мелі зброю. А соль, якую быццам бы насыпалі ў бензабак, сапраўды была. Праўда, насыпаў не жыхар Чысці, а ягоны швагра. Які сам злачынец і такім чынам мусіў насаліць канкурэнтам.

***- Ці сустракаўся ў вашай практыцы злачынец, які б рабаваў, карыстаючыся пачуццём справядлівасці, як герой фільма «Сцеражыся аўтамабіля»?***

- Не. І наўрад ці сустрэнецца. Бо так пад любыя злачынствы можна падвесці апраўдальную мараль.

*Васіль САВІЦКІ.*

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

### Сапсаваныя «Дары прыроды»

МАЛАДЗЕЧНА. За мінулы тыдзень эпідэміялагічны стан на тэрыторыі горада і раёна заставаўся стабільны. Зарэгістравана 25 выпадкаў захворвання на вірусныя кішэчныя інфекцыі, з іх 17 - у горадзе (паказчыкі ў пераліку на колькасць насельніцтва горада і раёна роўныя).

- Адзначаецца павышаная рэгістрацыя хворых на педыкулёз – 22 выпадкі, (20 з іх – вучні сельскіх школ, выяўлены пры медаглядах). Сярод іх нямала стойкіх ачагоў з няўдалых сем'яў. Прычынай завашыўленасці сярод сельскага насельніцтва служыць і адсутнасць лазняў у большасці населеных пунктаў. А вошы з'яўляюцца пераносчыкамі такога сур'ёзнага інфекцыйнага захворвання, як сыпны тыф.
- Па медыцынскую дапамогу звярнулася 6 чалавек, якіх пакусалі жывёлы.
- У лабараторыях цэнтра даследавана 17 узораў харчовых прадуктаў, з іх не адпавядалі патрабаванням 2 пробы дзіцячых малочных сумесяў, адабраныя па скарзе з магазіна "Дары прыроды" Хажоўскага РТП. Прычынай нядобраякаснасці паслужыла парушэнне ўмоў захоўвання ў магазіне, за што в. а. загадчыцы аштрафаваная.
- Даследавана 31 проба культур гароднііны на ўтрыманне рэшткавай колькасці нітратаў, усе адпавядалі дапушчальным нормам.

*Заканчэнне на 3-й стар.*

### Апошняя надзея для беспрацоўных

***ВІЛЕЙКА. Былая беспрацоўная (скарацілі з пасады інжынера па выпрабаванні тэхнікі завода «Зеніт») Наталля Блізнякова вучыць цяперашніх беспрацоўных, як зарабіць на кавалак хлеба. Пры ПТВ-124 яна вядзе курс «майстар па вырабах са скуры і саломкі».***

Цэнтр занятасці перанавучанне праводзіць з улікам патрабаванняў рынку працы. А яшчэ тут набіраюць 3-ю па ліку групу Блізняковай.

- Калі чалавек нешта зможа зрабіць сваімі рукамі - не прападзе,- так ставіцца да нетрадыцыйнай спецыяльнасці дырэктар цэнтра **Соф'я Лаўрыновіч**. - Мы ўгаворваем прадпрыемствы, каб у сябе яны наладзілі вытворчасць, да прыкладу, сувеніраў. Іх рабочыя месцы - нашы кадры. Але пакуль канкрэтыкі ў размове не адчуваем.

- Пакуль нашыя курсісткі працуюць толькі на сябе. Зробленыя імі, прыкладам, тапачкі прадаюцца імгненна, за 80-100 тысяч, - гаворыць Наталля Блізнякова, - робім біжутэрыю, футаралы для ключоў, акуляраў, касметычкі, кашалькі, сумкі. Адзін наш дыпламаваны майстар ездзіла ў Ізраіль. Там ёй прапанавалі весці падобныя курсы. Свае вырабы - бранзалет, заколку падарыла адной з супрацоўніц буйнога банка Ізраіля. І тая кожны дзень носіць іх на работу.

«Курсы майстроў» разлічаныя на 4 месяцы. Пасля бульбанарыхтоўчай кампаніі распачнуцца заняткі з адзнакамі, выніковым экзаменам.

- Ведаеце, як плачуць курсісткі за дрэнныя адзнакі? Падручнікаў няма, таму пішуць канспекты. А ўзрост жанчын ад 20 да 60. Яшчэ трэба здаваць малюнак, экспазіцыю. Аднак без жадання, толькі ад адчаю да нас не ідуць. Асабліва старанныя ў вучобе тыя, каму за 40.

*Васіль САВІЦКІ.*

СТАРЫ АЛЬБОМ



Вучні выпускнога 7-га класа Лебедзеўскай школы з настаўнікамі і святарамі.

ФОТА З АЛЬБОМА УЛАДЗІМІРА ГАБРУКОВІЧА.

Згодна з царкоўнымі метрыкамі, яшчэ ў 1861 годзе пры старой (у драўляным будынку) школе пачала працаваць царкоўна-прыходская школа. Веды ў абмежаванай колькасці даваліся па рускай, царкоўнаславянскай мовах, арыфметыцы, біблії і царкоўных спевах.

У канцы XIX стагоддзя колькасць пісьменных у Віленскай губерні складала крыху больш за 30%. У 1919 годзе пры Лебедзеўскай праваслаўнай царкве намаганнямі яе святара **Ігната Мядзведскага** (1872-1946) была адчыненая пачатковая беларуская школа. Упершыню дзеці мястэчкоўцаў змаглі атрымліваць веды на зразумелай і блізкай для іх мове.

Ігнат Мядзведскі сядзіць у другім радзе шостым. Праваруч яго дырэктар школы **Стэфан Батоўскі** і ксёндз мясцовага касцёла **Станіслаў Высядлоўскі**.

*Алесь ЦАДКО.*

# Падпішыся!

Завяршаецца падпіска на 4-ы квартал. Цана на месяц -12 тысяч рублёў.

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ НА **Рэгіянальную газету** 63212 (індэкс выдання)

Колькасць камплектаў

На 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____ (індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літара — 63212 (індэкс выдання)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА НА **Рэгіянальную газету**

| Кошт | падпіскі | | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадр. | | |

На 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____ (індэкс) ____ (адрас)

Каму ____ (прозвішча, ініцыялы)

КУЛЬТУРА

## Міжнародныя чытанні

РАКАЎ. Тут прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя і другія Ракаўскія чытанні. Прысвечана ўсё было вядомым асветнікам XIX стагоддзя, мясцовым жыхарам братам **Мар'яну** і **Казіміру Здзяхоўскім** і польскай пісьменніцы **Элізе Ажэшцы**. Менавіта Эліза назвала мястэчка Ракаўскімі паўночнымі Афінамі.

Канферэнцыя праходзіла пад патранажам райвыканкома і сельсавета. Сярод гасцей з Польшчы, Англіі, розных куткоў Беларусі прысутнічалі вядомыя ракаўчане – прафесар БДУ **Вячаслаў Рагойша**, прэзідэнт беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва **Фелікс Янушкевіч** і ягоны брат **Язэп** - кандыдат філалагічных навук.

Упершыню ракаўскія чытанні набылі статус міжнароднай канферэнцыі.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

## На «Акаладзе»гурт з Маладзечна

*Музыкальны гурт «Рэактар» са сваімі дзвюма песнямі «Не сябрую з галавой» і «Тараканы» выступіў у маладзёжнай праграме «Акалада» (тлеэфір 10 і 15 верасня). Хлопцы спявалі пад фанаграму ў «вясёлым ракурсе». Надзелі на сябе парыкі, доўгія зялёныя панчохі, бурацінскія шапкі. Маскарад зрабілі самі. Да запісу шмат рэпецыравалі, можа, таму ў студыі ўсё і прайшло без дубляў. У перадачы адбыўся традыцыйны дыялог музыкантаў з Аксанай і Анатолем Вечарамі.*

Пасля запісу перадачы музыканты з сям'ёй Вечараў наведалі бар тэлекампаніі (скідваліся). А група «Ляпіс Трубецкой» маладзечанцам падарыла відэакасету з запісам свайго выступлення, фірменную футболку.

*Васіль САВІЦКІ.*



Рэпетыцыя ў гаражы: самы адданы слухач - старэнькі «Запарожац». Іграюць Жэня Шкадун, Мікола Шкет, Лёня Барценеў.



Леанід мае добры настрой ад уласнай песні.

ФОТА СЯРГЕЯ АНДРЭЕВА.

## Жыві, "Гліняны звон"

*ІВЯНЕЦ. Як паведамляла «РГ», тут прайшло абласное свята ганчароў "Гліняны звон".*

Івянец быў і ёсць адным з найбольш развітых цэнтраў керамічнай вытворчасці на Беларусі. У XVI–XVIII стагоддзях тут фарміраваліся самабытныя народныя рамесныя школы. У канцы XIX–пачатку XX стагоддзяў Івянец набывае славу сталіцы ганчарства на Беларусі. А сёння ганчарнае майстэрства тут адраджаецца і набывае новыя крылы, дзякуючы захавальнікам сакрэтаў сваіх таленавітых продкаў.

Свята пачалося пад праліўным даждом на плошчы Свабоды, але ніхто не пакінуў яго. Уздоўж усяго шляху, на якім праходзіла святочнае шэсце дэлегацый, разгарнулася мастацкая экспазіцыя. Прыцягвалі ўвагу непаўторныя глечыкі, гарлачы, гаршчочкі попельнага, карычневага, зеленаватага адцення, створаныя рукамі мэтра ганчарнай справы **Сямёна Саўрыцкага** (калекцыя яго твораў упрыгожвае экспазіцыю нашага музея).

На пляцоўцы перад музеем запалілі паходню. Першым за ганчарны круг сеў Антон Пракаповіч, старэйшына цэху майстроў Івянца, член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, кавалер ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга. Яго творы з'яўляюцца сапраўднымі шэдэўрамі калекцыі керамікі нашага музея. Дапытлівыя гледачы цесна абступілі яго, захопленае сачылі за кожным рухам. Ганчар заўважыў іх шчырае здзіўленне, хітравата прыжмурыў вочы і кажа:

– Там на крузе чорцік сядзіць, ён усё робіць, а я ім толькі кірую!

І людзі чамусьці вераць у гэты наіўны падман. Іх здзіўленне падвойваецца, калі, нарэшце, ганчарны круг спыняецца, а абяцанага "памочніка" так і не шанцуе пабачыць – толькі свежазробленая рэч і стомленыя рукі. Талент – гэта заўсёды таямніца. Здольнасць спасцігнуць даецца не кожнаму.

Некалькі гадзін майстры стваралі на вачах у наведвальнікаў свае творы. Усіх удзельнікаў узнагародзілі. Цяпер яны чакаюць "Ганчарны звон–2000" у Лагойску.

***Наталля ПАЛТАВЕЦ,***
***загадчыца аддзела Мінскага абласнога краязнаўчага музея.***

ВЕРСІІ

# Як арабы беларусаў «спансіравалі»

*СМАРГОНЬ. Увосень 1971 года каля вёскі Ракаўцы пры сельскагаспадарчых работах трактар закрануў чырвоны камень. Непадалёку гуляў шасцікласнік Алесь Шаховіч. На тым месцы, дзе ляжаў валун, ён убачыў расціснуты гліняны гаршчок, а вакол – старыя манеты з незразумелымі надпісамі і знакамі. Набіўшы кішэні манетамі, хлопчык пабег дадому.*

Пра здарэнне стала вядома настаўніку. Ён папрасіў прынесці манеты ў школу. Адтуль скарб адправілі ў Мінск, дзе ён апынуўся на стале вядомага гісторыка–нумізмата **Валянціна Рабцэвіча**. Знаходка была сенсацыйная!

Скарб, схаваны пад чырвоным валуном, складаўся з 826 сярэбраных куфічных дырхемаў (ад слоў "куфі" – найменне старога арабскага пісьма і грэчаскага "драхмэ" – жменя). У VIII–X стагоддзях такія грошы шырока ўжываліся на тэрыторыі Беларусі, з'яўляючыся своеасаблівымі "доларамі" таго часу.

Самыя старажытныя са знойдзеных у скарбе манет чаканіліся ўладарамі дынасты Абасідаў і належалі да 848–849 гадоў, самыя маладыя пусцілі ва ўжытак эміры з роду Саманідаў у 952–953 гадах.

Большую частку манет адбілі ў Аш–Шашэ, Самаркандзе, Бухары, Фергане і іншых вядомых гарадах Старажытнага Усходу. Цяпер Ракавецкі скарб экспануецца ў Дзяржаўным музеі РБ.

У канцы васьмідзесятых гадоў у некалькіх сотнях метраў ад месца знаходкі скарбу смаргонскі бульдазерыст **Станіслаў Буйкоўскі** знайшоў яшчэ адзін скарб з дакладна такіх самых арабскіх дырхемаў.

Пры разраўніванні схілу нож бульдозера падчапіў чарговы пласт глебы і расціснуў нейкую дзівосную бронзавую пасудзіну. З яе на паверхню высыпалася шмат круглякоў, вельмі падобных здалёк на піўныя коркі. Буйкоўскі і рабочыя, што падышлі да яго, разглядалі незвычайныя сярэбраныя дыскі з незразумелымі знакамі. Выклікалі міліцыянераў. Тыя вырашылі, што знаходка ніякай каштоўнасці не ўяўляе. Бульдазерысту шкада было выкідаць загадкавыя кругляшкі. Ён забраў большую частку іх сабе даХаты. Трошкі ўзялі і цікаўныя – можа, на што спатрэбіцца. Адзін адразу выраШыў: зраблю някепскую блясну.

Аднойчы адну манетку з гэтага скарбу ўбачыла дырэктар смаргонскага музея **М. Майсяевіч**. Яна адразу зразумела, што мае справу са старажытнымі грашыма. Знайшлі гаспадара скарбу. Знаходка захоўвалася ў месцы на балконе і важыла 7 кілаграмаў 400 грамаў. Сярэбраных манет высокай пробы было намнога болей, чым у скарбе А. Шаховіча. Своечасова трапілі каштоўныя дырхемы да спецыялістаў – гаспадар ужо збіраўся выкінуць іх на сметнік.

Вёска Ракаўцы знаходзіцца на водападзеле. Каля яе бярэ пачатак Крэўлянка, якая ўпадае ў Вілію. Хутчэй за ўсё, на старажытным гандлярскім шляху тут знаходзіўся волак. Магчыма, у гэтым месцы на купцоў напалі разбойнікі. Тады яны схавалі свае грошы, спадзеючыся забраць іх праз некаторы час. Але нешта перашкодзіла ім. А можа, купцоў было не двое? Бо ў тыя часы з мэтай бяспекі яны рухаліся вялікімі групамі (караванамі), таму і скарбаў пад вёскай можа быць болей.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Праця г. Пачатак у №№ 8-34, 36-37.*




## Шпіталь як вялікі бізнес

***Медыцына ў ЗША – таксама бізнес. Функцыянаванне – адпаведна камерцыйнаму прадпрыемству. Калі хворы не мае страхоўкі ці грошай – ён можа хоць паміраць. Аднак калі сапраўды будзеце паміраць, бліжэйшы шпіталь дапаможа. Ёсць лячэбныя ўстановы для бедных, фінансаванне якіх ажыццяўляюць улады штата.***

Абслугоўванне, натуральна, на ўзроўні. Студэнтаў–медыкаў, прыкладам, вучаць і ўменню мець стасункі з людзьмі, будучымі пацыентамі. Санітарка з цялежкай не паедзе па калідоры праз наведвальнікаў ці пацыентаў, але аб'едзе іх па суседнім праходзе.

Медыцынская страхоўка – неад'емны атрыбут амерыканцаў. Кожны плаціць штомесяц да 1000 долараў (многім дапамагаюць прадпрыемствы; аднак калі вы курыце ці маеце залішнюю вагу, на дапамогу не спадзявайцеся). Сярэдняя аперацыя каштуе ад 60 да 200 тысяч долараў.

Знаёмы расказаў, што заплаціў за страхоўку ўжо каля 50000 долараў, але да ўрача ні разу не схадзіў. Таму многім падабаецца працаваць у шпіталі – сваім работнікам тыя медыцынскую дапамогу аказваюць бясплатна. Спрактыкаваная медсястра атрымлівае 20 долараў у гадзіну (мінімальны заработак у Аёве – 5,25 долара ў гадзіну пры 40–гадзінным рабочым тыдні).

Добраахвотнікам (сярод іх ёсць нават 98–гадовая бабка, якая прыходзіць дапамагчы двойчы ў тыдзень) цэнтральнага шпіталя Дэ Мойна грошы не плацяць, аднак ім прадастаўляецца бясплатны ланч, выдаюць падарункі і г. д. Песіянеры маюць 1100 долараў у месяц, але аддаюць перавагу далейшай рабоце.

На «экскурсіі» нечакана для сябе вынайшлі адсутнасць спецыфічных бальнічных пахаў. Уразіла і разнастайная ежа ў сталоўцы – нават вострая. Калі мы, дарэчы, туды зайшлі на ланч, увагу на нас ніхто не звярнуў, не абмежаваў нашыя перамяшчэнні.

Аб медыцынскай тэхніцы гаварыць немагчыма. Калі рэнтгенаўскі здымак робяць за лічаныя секунды, то пра што расказваць? Да нас, дарэчы, ідзе абсталяванне, якое самі амерыканцы ўжо не выкарыстоўваюць. Нават калі апарату толькі тры месяцы (але ў іх з'явілася новая мадыфікацыя).

Жвавая жанчына «перадпенсійнага ўзросту», якая і запраўляе ўсімі справамі вялізнай установы ставіцца да сваёй работы з гумарам:

– Я працую ў бальніцы з 1973-га і некалькі год правяла тут у чаканні ліфта.

– Мой аўтамабіль ужо аўтаматычна сюды заязджае, кіраваць ім не трэба.

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

ФОТА АЎТАРА.

# Харчовыя страты

АСТРАВЕЦ. Апошнімі днямі гандляроў прамысловымі таварамі тут амаль не паменела. А вось шэрагі "харчавікоў" панеслі адчувальныя страты. Але і ў тых, хто гандлюе, асартымент звычайна не перавышае дзесятка найменняў, цэны на якія павысіліся.

***Аддзел інфармацыі.***

# Пакармі тату

На Камароўцы ёсць кафэ з гучнай назвай "Сытый папа". У мінулую нядзелю, каб прыцягнуць наведвальнікаў, адміністрацыя кафэ разам са сталічным гуртам "Янка" арганізавала канцэрт на плошчы каля рынку.

Гледачам (іх было каля 200) прапанавалі народныя песні ў сучаснай апрацоўцы, запрасілі спяваць і танцаваць. Самым актыўным удзельнікам выдавалі на бутэльцы піва "Ячменны колас".

Пасля канцэрта разгарачаныя ад спеваў і танцаў гледачы рушылі ў кафэ ахалоджвацца. Што і патрабавалася даказаць.

***Ігар КІЦІКАЎ.***

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

МАЛАДЗЕЧНА. Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 9.09 | 16.09 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 164,1 | **144** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | 345 | **306** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | - | **104** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 54 | **65-80** |
| Рыс | 1 кг | - | **58** |
| Цукар | 1 кг | 49,5 | - |
| Грэчка | 1 кг | 59 | **59** |
| Алей | 1 л | 130 | **130** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 26,8 | **21-29** |
| Маянэз | 250 г | 28 | **20** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 120 | **120** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 40 | **40** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 50 | **45** |
| Лімоны | 1кг | - | - |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 40 | **36** |
| Масла | 1 кг | 110 | **110** |
| Тварог | 1 кг | 40 | **30** |
| Малако | 1,5 л | 10 | **14** |
| Бульба | 1 кг | 10 | **8** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 40 | **40** |

# Паеў сам – падзяліся з суседам

У красавіку былі зацверджаныя нормы выпуску харчовых тавараў першай неабходнасці. Цяпер улады загадалі абавязкова прытрымлівацца нормаў. Парушальнікаў будуць караць да звальнення з работы.

Сёння мы за адно наведванне магазіна можна набыць:

| | Маладзечна | Вілейка | Валожын | Астравец | Смаргонь | Ашмяны |
|---|---|---|---|---|---|---|
| мяса | 2 кг | 2 кг | 2 кг | 2 кг | 2 кг | 2 кг |
| кілбасы | 1 кг | 1 кг | 1 кг | 1 кг | 1 кг | 1 кг |
| алей | 0,5 кг | 0,5 кг | 0,5 кг | 1 л | 1 л | 1 л |
| масла | 0,4 кг | 0,4 кг | 0,4 кг | 0,3 кг | 0,3 кг | 0,3 кг |
| сыр цвёрды | 0,4 кг | 0,4 кг | 0,4 кг | 0,5 кг | 0,5 кг | 0,5 кг |
| цукар | 2 кг | 2 кг | 2 кг | 1 кг | 1 кг | 1 кг |
| крупы | 2 кг | 2 кг | 2 кг | 1 кг | 1 кг | 1 кг |
| макарона | 2 кг | 2 кг | 2 кг | 2 кг | 1 кг | 1 кг |
| хлеб | 2 кг | 2 кг | 2 кг | 2 кг | 2 кг | 2 кг |
| хлебабулач. вырабы | 1 кг | 1 кг | 1 кг | 1 кг | 0,5 кг | 0,5 кг |
| кандытар. вырабы | 1,5 кг | 1,5 кг | 1,5 кг | 1 кг | без абм. | без абм. |
| яйкі | 2 дзесяткі | 2 дзесяткі | 2 дзесяткі | Неабмеж. | Неабмеж. | Неабм. |

Ашмянскі райвыканком абмежаваў продаж спіртнога (не больш за 1 літр у адны рукі), тытунёвых вырабаў айчыннай вытворчасці (па 5 пачкаў), а таксама, з улікам блізкасці мяжы, аўтааматары змогуць тут набыць бензіну любой маркі не больш за 20 літраў.

Здавалася б, уведзены нарміраваны продаж прадуктаў харчавання павінен быў паспрыяць знікненню дэфіцыту. Але, да прыкладу, у астравецкіх крамах тыдзень як адсутнічае цукар, у Ашмянах яго на днях толькі мяркуюць завезці (каля 30 тон). Ёсць перабоі з алеем.

***Марына ТАЧЫНСКАЯ, Рэгіна СЯМЁНЧЫК, Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ, Сяргей АНДРЭЕЎ.***

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

# Сапсаваныя...

***Пачатак на 1-й стар.***

- Забракаваная партыя ў 9900 кілаграмаў рыбы свежамарожанай (мойва), якая паступіла на Маладзечанскую міжрайбазу з сышоўшым тэрмінам захоўвання.
- З даследаваных 65 проб грыбоў у 19 знойдзеныя перавышэнні ўтрымання радыенуклідаў - грыбы з розных месцаў Маладзечанскага і Вілейскага раёнаў, як і раней, гэта, у асноўным, курачкі.
- За парушэнні санітарных нормаў і правілаў аштрафаваныя загадчыкі магазіна №45, сталовай РКЗ, кафэ "Экспрэс", адказны за арганізацыю харчавання механізатараў калгаса "Усход".

***Міхаіл ГРАБОЎСКІ, в. а. галоўнага ўрача Маладзечанскага РЦГіЭ.***

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# Сумныя 62 гады

РАДАШКОВІЧЫ. У панядзелак больш за шэсцьсот радашкоўцаў сабраліся, каб правесці ў апошні шлях галоўнага ўрача мясцовай бальніцы **Аляксандра Забаронка**. Ён не пражыў і пяцідзесяці год, памер раптоўна.

На жаль, такія смерці становяцца ўсё больш частымі. Па сярэдняй працягласці жыцця мужчын (62 гады) Беларусь устойліва займае адно з апошніх месцаў у Еўропе.

***Аддзел інфармацыі.***

АЎТА–МОТА

# "Пагоня" на візе

***Раней вілейчане ў Вільню ездзілі па кілбасы і "Такайскае". Цяпер, калі і выбіраюцца ў літоўскую сталіцу, дык, хутчэй за ўсё, па аўтамабіль, бо менавіта там месціцца адзін з буйнейшых і таннейшых аўтарынкаў Еўропы.***

Паездка ў суседнюю краіну пачынаецца з адкрыцця візы (часцей – аднаразовай). У Вілейцы, прыкладам, гэтым займаецца турклуб.

Маладыя ветлівыя дзяўчаты прынялі ў мяне дакументы: замежны пашпарт і фотаздымак. Потым патрэбна было запоўніць невялікую анкету, заплаціць 20 долараў (гэтыя грошы ідуць у пасольства Літвы) і 600000 "зайцоў" (турклубу за пасрэдніцтва). Ужо назаўтра ў маім пашпарце пераліваўся герб "Пагоня" на літоўскай візе. Да слова, іхняя "Пагоня" ад нашай адрозніваецца тым, што хвост іхняга каня падняты ўверх, а ў нашага апушчаны ўніз. Гісторыя наша была агульная.

У Літву я трапіў праз мытню Sumskas, што ў 12 кіламетрах ад Астраўца. Гэта крыху ўбок ад цэнтральнай мытні. І хоць прыйшлося праехаць лішнія кіламетры, але ж затое тут амаль няма чаргі. Перасячэнне абедзвюх граніцаў заняло каля 20 хвілін. Беларусаў цікавіла колькасць долараў, а літоўцаў – колькасць бутэлек гарэлкі. Правозіць можна 500 долараў і 2 бутэлькі гарэлкі.

У Літве самая танная гарэлка каштуе 20 літаў (4 літы = 1 долар), наша з рук ідзе па 12 літаў (255 тысяч рублёў).

Перада мной затрымалі "пенсіянера". У дзверках "Жыгулёў" ён схаваў 50 бутэлек гарэлкі. Гэта 8500000 рублёў "навару". Нядрэнны дадатак да пенсіі.

Праз паўгадзіны я быў у Вільні, а яшчэ хвілін праз 20 пад'язджаў да аўтарынку Geruda. Ён знаходзіцца ў 11 кіламетрах ад Вільнюса (і, як у Мінску, месціцца зусім побач з ЦЭЦ, таму для тых, хто едзе ўпершыню, добрым арыенцірам будуць трубы, якія відаць здалёк).

Калі вы заязджаеце на рынак на машыне, трэба заплаціць 5 літаў, прыйсці сюды пешшу не будзе каштаваць нічога.

Рынак пачынаецца ў чацвер раніцой (найбольшы выбар), а ў пятніцу ўвечары машыны пачынаюць раз'язджацца (у гэты час яны найтаннейшыя).

Тэрыторыя рынку займае каля 3 квадратных кіламетраў, на ёй месцяцца некалькі тысячаў машын. Каб абысці ўвесь рынак, спатрэбіцца некалькі гадзін (у мяне тры), але некаторыя ходзяць суткі. Калі стаміўся, можна выпіць кавы ці перакусіць – на рынку каля 10 кафэ, ёсць тут і платныя прыбіральні (1 літ).

Выбар машын вялікі – ад Опель–Кадэта за 1000 долараў да Кадзілака за 56000.

Калі вы зрабілі выбар, не спяшайцеся плаціць. Вазьміце ў прадаўца тэхпашпарт і ўважліва зверце нумар кузава і нумар рухавіка. Потым ідзіце ў натарыяльную кантору, дзе складаецца дагавор куплі–продажу (не забудзьцеся нагадаць, каб на другой старонцы дагавора зрабілі пераклад). На рынку 5 кантор, таму чаргі амаль не бывае. Пасля гэтага машына ваша, можаце аддаваць грошы.

Цяпер, каб вы змаглі вывесці пакупку з тэрыторыі Літвы, у суседняй канторы за 40–60 літаў машыну дэкларуюць і заносяць у камп'ютэр, пасля чаго вам на рукі выдаюць дэкларацыю і камп'ютэрную дыскету. Цяпер можна ехаць на мытню.

Але зазірніце на датчык паліва (прадаўцы заліваюць самы мінімум), бліжэйшая запраўка недзе за 10 кіламетраў ад рынку. На самой запраўцы не спяшайцеся заліць поўны бак, бо бензін у Літве каштуе ў 2 разы даражэй. А да першай беларускай запраўкі каля 45 кіламетраў.

Калі вы ўжо за рулём, не забудзьцеся "прышпіліцца", бо штраф 20 літаў, і не надумайце ўжыць трошкі алкаголю, бо выкладзеце 2000 літаў (500 долараў). Хаця бутэльку піва выпіць дазваляецца.

Ад рынку да цэнтральнай мытні 39 кіламетраў. На літоўскім баку назва пасёлка Medininkai (Меднікі), на беларускім – Каменны Лог. На мытні чарга займае некалькі гадзін, але калі вы едзеце ноччу і ўмееце размаўляць з людзьмі, дык чаргу можна скараціць да мінімуму. На літоўскай мытні нават не паглядзелі, на якой машыне я еду, толькі праглядзелі дакументы і на камп'ютэры расшыфравалі дыскету. Усё гэта каштуе 24 літы. На беларускай трэба запоўніць 3 дэкларацыі і часткова растаможыць машыну. Тут трэба памятаць, што большая частка "гоншчыкаў" – расіяне, таму дастаткова вітацца з мытнікамі па–беларуску. Так вы аўтаматычна становіцеся "сваім". І калі вам нешта не зразумела, дык яны абавязкова падкажуць, што і дзе.

І апошняе: адразу за мытняй (каля 2 кіламетраў) запраўка, але не прапусціце яе, бо размяшчаецца тая ўбаку ад трасы, побач з нейкім кароўнікам.

***Ігар КІЦІКАЎ.***



*Прыехалі? Ці проста размова «па душах»? На дарозе, бывае, не вызначыш прычыну і вынік такой «гутаркі».*



*Недзе, мо, і гарыць зялёны святлафор, а тут «цагліны» ледзь не ў кальцо бяруць. Альбо «Далей не пусцілі».*

ФОТА З АРХІВА «РГ».

